**Год VI. Студзень № 1 (61).**

# Шлях Моладзі

...„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.







ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 1:



**МОЛАДЗЬ, УВАГА!** Хто дагэтуль не аплаціў падпіскі на „Шлях Моладзі“, няхай пастарайцца зрабіць гэта найхутчэй, бо ў праціўным выпадку высылка часопісі будзе стрымана. Хто аплаце гадавую падпіску ў суме 2 зл., атрымае прэмію зложаную з 4 цэнных і цікавых кніжак, з тым аднак, што на перасылку прэміі трэба яшчэ прыслаць 1 зл. Гэта значыць, хто хоча атрымліваць „Шлях Моладзі праз цэлы год і дастаць црэмію няхай прысылае зараз-жа 3 зл.

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

### Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | У, у — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год VI. | Вільня, Студзень 1934 г. | № 1 (61). |
| --- | --- | --- |

## НА НОВЫ 1934 ГОД.

*З новым годам, в новай доляй*
*Я вітаю, Браткі Вас!*
*І жадаю ўцехі болей,*
*Каб той год прынёс для нас.*

*Каб зьмяніўся лёс нямілы —*
*Перастаў нас руйнаваць,*
*Каб здабылі сродкаў-сілы*
*Родны край свой будаваць.*

*Каб з бядоты падняліся,*
*Каб сон-змора зьнік з павек,*
*Каб больш сьлёзы ня ліліся,*
*Каб спынілісь: крыўда, зьдзек.*

*Каб разьвіць асьвету—веду —*
*Цемру цяжкую страхануць,*
*Каб па зробленаму сьледу*
*Дабрабыту дасягнуць.*

*Каб да мэты сваей здольна*
*Даў ісьці нам гэты год!*
*Каб ўздыхнуў свабодна-вольна*
*Беларускі ўвесь Народ!*

*А. Жук.*

---

## Z NAVAHODNICH MATYVAŬ.

*Iznoй nad sonnaju Krainaj*
*Miaciel zavodzić karahod.*
*I Novy Hod i z dalaŭ sinich*
*Pryšoŭ i staniŭ la varot.*

*Chutčej pa staramu zvyčaju*
*U chatu klikniem my hašcia.*
*Na stole siena... i čakaje*
*Jaho bahataja kućcia.*

*I chaj hulaje nad palami*
*Miaciel i krucić karahod.*
*Siadaj-ža novy Hość miž nami!*
*Budź pachvalony tvoj prychod!*

*Tabie nia stavim vymahańnia*
*I nia pytajem,—jak i što.*
*Ja vieru mocna—my paŭstaniem,*
*Ja čuju —budzicca žyćcio.*

*I chaj nad sonnaju Krainaj*
*Miaciel spraŭlaje karahod.*
*Kali nia źhinuli — nia źhiniem!*
*Dyk z novaj vieraj—й Novy Hod!*

*M. MAŠARA.*

---

# Што далей?

Новы 1934 год, хоць яшчэ, як кажуць, ня ўсьпеў у пер'е ўвабрацца, але ўжо многа прынёс нам розных вестак. З заграніцы чуем узнаўленьне гутаркі аб стварэньні Літоўска-Беларуска-Украінскай дзяржавы, то йзноў аб нямецкіх калёніях на беларускіх землях. У Б.С.Р.Р. збанкрутаваўшы камунізм, выліўшыся ў маскоўскі шовінізм, з што-раз большай жорсткасьцю вядзе рашучую барацьбу з усім, што ёсьць беларускае. На помач маскалём прыйшлі беларускія рэнэгаты і апынуўшыяся там палякі на чале з „слаўным" Домбалем.

Барацьба гэта да таго ўжо дайшла, што нават быўшыя паслы з „Грамады" і Клюбу „Змаганьня", як Валошын, Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Дварчанін, Гаўрылік, Валынец і іншыя беларускія дзеячы, каторыя яшчэ ня так даўно трапілі туды, дзякуючы замене вязьняў, ужо арыштаваны і чакае іх працэс. Усе яны, як ведама ў Заходняй Беларусі, расьпіналіся за камуністаў і за гэта насілі гузы на галовах, ды былі асуджаны польскім судом на 8 ды больш гадоў катаргі.

Як бачым, цяжкі лёс спаткаў тых, каторыя падпарадкаваліся юдавай палітыцы Саветаў і якія бяскрытычна глядзелі на жыцьцё.

Сумныя і цяжкія гэтыя падзеі, здавалася-б, павінны былі давясьці да розуму ўсіх дагэтуль засьлепленых у савецкіх Донбасах і Днепрастроях. Аднак не! — Бачым у Вільні новых наіўных маладых людзей, якія плюючы на найсьвяцейшыя беларускія народныя ідэалы і ўсіх народных незалежных дзеячоў, усімі сіламі стараюцца пераканаць беларускае грамадзянства, што ў С.С.Р.Р. Беларусы маюць дабрабыт і поўную свабоду.

Цёмныя і варожыя сілы ня сьпяць, яны што-раз больш энэргічна разьвіваюць сваю дзейнасьць, пускаючы ў рух рознага роду правакатараў і шукаюць новых ахвяр. Гэта зараза стараецца пранікнуць усюды, і дзе ёй удасца гэта, то зараз-жа паказвае, што ўмее. І так, напрыклад, у Таварыстве Беларускае Школы цяпер ужо да таго дайшло, што сапраўды трудна пазнаць, хто і чаго там хоча. Адным словам, ворагі беларускага народнага адраджэньня натужваюць усе сілы, каб адраджэнскі незалежніцкі рух здушыць, бо яны бачаць, што сьведамасьць народная ўзрастае і становіцца што-раз магутнейшай.

У такіх вось варунках прыходзіцца нам распачаць новы год свае працы. З гэтай нагоды мы хочам кінуць вокам на прошласьць і будучыню.

Да гэтай пары ўсе жывыя беларускія сілы былі накіраваны перадусім дзеля пашыраньня сярод народу нацыянальнае сьведамасьці. Здараліся пры тым рознага роду „павадыркі“, што стараліся знаходзіць апору свайго існаваньня ў Маскве, або ў Варшаве. Жыцьцё аднак паказала, што чужынцом заўсёды ідзе аб тое, каб толькі нас прыгалубіць да сябе і выкарыстаць, а пасьля адкінуць, як высмактаную цытрыну. Апошнія падзеі ў Саветах і гісторыя беларускае полёнофіліі ёсьць найлепшым гэтага доказам.

З гэтымі „пробамі“ час найвышэйшы скончыць! Усе павінны стаць дружнай грамадой пры беларускім нацыянальным бела-чырвона-белым сьцягу, пры ім свае сілы ўзмацняць і самастойна, незалежна будаваць сабе лепшую будучыню, бо ніхто яе нам ня дасьць. Хто-б і калі да нас ні прышоў, будзе старацца перадусім нас выкарыстаць.

Кіруем гэтыя словы перадусім да моладзі, бо яна ёсьць будучыняй народу і калі яна суцэльнай масай стане пры сваіх народных нацыянальных ідэалах, то ў беларускім руху ня будуць мець месца для сябе чужацкія варожыя орыентацыі і лепшая будучыня напэўна нас ня міне.

Коратка гаворачы, — працуючы далей незалежна для палепшаньня долі беларускага народу, для адраджэньня Бацькаўшчыны, бяручы за падставу народную ідэолёгію, трэба выкарыстаць усе магчымасьці і ўсімі шляхамі йсьці да сьветлай мэты, гонячы проч усіх юдаў і правакатараў.

Я. Н.

# Kalady na Biełarusi.

Cykl kaladnych śviatkoŭ na ŭsim chryścijanskim śviecie pačynajecca ŭviečary 24 śniežnia. U hety viečar dziŭna dzieić na čałavieka ŭsio akružajučaje i ŭsio niemahčymaje stajecca mahčymym. Usio niažyvoje ažyvaje, pryroda dumaje, havoryć ludzkimi jazykami. Hlańma ciapier, ci ŭsie hetyja vyabražeńni i nadzvyčajnyja prajavy paŭstali pad upłyvam chryścijanstva?

Kaladnyja śviatki całkom pieraniesieny z dalokaha śvietu pahanskaha ŭ sučasnaść, jakaja starałasia achvarbavać ich formaj chryścijanskaj i ŭłažyć chryścijanski źmiest. Ale narodnyja tradycyi, asabliva duchovyja pieražyvańni, hłybaka zakareńvajucca ŭ dušu paasobnych adzinak, a taksama i ŭ dušu całaha narodu, plemia, siam'i. I pahanski element kaladnych śviatkoŭ, mima ŭsiocełaha schrystyjanizavańnia narodu našaha, pieratryvaŭ da siahońnia, choć z imhlistymi formami, ale zatoje z źmiestam vielmi vyraznym. Kaścioł i carkva, jak ustanovy na našych ziemlach z čužym kiraŭničym elementam, a taksama čužaja cyvilizacyja, za čatyry piać apošnich viakoŭ nie patrapili vyrvać z dušy narodu taho, što było śviatym i nieabchodnym u žyćci duchovym Biełarusa. Usie

tradycyi z žyćcia duchovaha, mima ŭsialakaha hłumu, zachavalisia da siańnia.

U Biełarusa—sielanina jość dźvie viery: viera praščuraŭ—pierachodziačaja darohaj tradycyi z pakaleńnia ŭ pakaleńnie— i viera novaja — chryścijanskaja, jakaja źjaŭlajecca ŭ jaho paniaćci aficyjalnaj, mała dziejučaj na jaho moralna-psychičnaje žyćcio. Chryścijanskaja etyka dla biełarusa źjaŭlajecca „kodeksam karnym" instytucyi boskaj. Biełarus nia robić zła, bo baicca piekła. A kali-b nia było piekła i „kodeksaŭ", to taksama nie rabiŭ-by zła, bo jamu nie pazvalała-b na heta etyka narodnaja — tradycyjnaja. Hłybokaha zrazumieńnia chryścijanskaj navuki ŭ biełarusa niama (chiba ŭčućciovaść tolki); jon jaje zrazumieć nia moža, bo jana siańnia płyvie da jaho ŭ niezrazumiełaj formie, čužoj movie. Słovam, biełarus nie z svajej viny maje siańnia dźvie viery. Za prykładami daloka chadzić nia treba.

U kaladniaj abradnaści bačym try najvažniejšyja pahanskija elementy: 1) paminalny (kult prodkaŭ), 2) ahrarny (ziemlarobski) i 3) luboŭny (svataŭstvo, žanićba).

Usie vyšej uspomnienyja elementy vystupajuć asabliva ŭ pieradkaladni viečar (na «kućciu»). U hety viečar, padčas viačery, bačym, jak najstarejšy z siam'i — dzied, baćka kiruje abradami: jon pieršy z uračystym nastrojem siadaje na „pokućci« i pieršy biare łyžkaj kućciu i zaprašaje na viačeru „maroza", abo „Vasila": „Vasil, Vasil chadzi kućciu jeści". — Ci-ž u hetym mamencie nia bačym starynnych pahanskich formaŭ tahočasnaha radavoha ładu? Ci daŭniej nia kiravaŭ uračystaściaj abradavaj patryjarch—najstarejšy z rodu, klanu, plemia, siam'i?

Patryjarch, jaki na „dziadoch" zajmaje pieršaje miesca i kiruje ŭsioj abradavaściaj, ciž nia hraje rolu pahanskaha śviatara-duchoŭnika? Heta-ž jon zaprašaje na kućciu dušy prodkaŭ, heta jon kidaje kašu ŭ kut „dziedu" niabačanamu, jaki pryšoŭ z-zaśvietu. Haspadynia varačy „kućciu" nie kamu inšamu, tolki dušam prodkaŭ try łyžki „nakipu" lije ŭ pamialnik abo ŭ padpiečak. Taksama ŭ hety viečar dobra chatu nacieplivajuć, „kab dušački mahli abahrecca". Nie kamu inšamu, jak tolki „dziadom" pakidajuć na stale niaźjedzienuju abradavuju viačeru i staviać łyžki kruhom misy z „kućcioj", a taksama, kali siadziać pry viačery, pakidajuć adno volnaje miesca dla taho, chto niadaŭna z rodnych pamior. A chto-ž maje zaškodzić ludziam i žyviole, kali nia duchi pamioršych, kali-b chto advažyŭsia pracavać u „śviatyja viečary" ad Kućci až da Chryščeńnia?

Pieraličanyja fakty ćviorda nas pierakonyvajuć ab isnavańni paminalnaha elementu ŭ kaladnaj abradnaści.

Nia mienš vyjaŭlajecca i element ahrarny (ziemlarobski), heta śviata ziemlarobskaje, śviata ŭradžaju. Pa viačery spad nastolnika vyciahivajuć pa adnym kalivie siena; chto vyciah-

nie daŭžejšaje, tamu lon vyraście vialiki. Abo hladziać atruski pad sienam: jakoha zbožža zierniat budzie bolš, toje lepš urodzić u nastupajučym hodzie. Taksama na druhi dzień Kalad haspadar idzie ŭ humno i kožnaha zbožža pa žmieni syple praz hradki ŭ asieci i jakoje zbožža huściej na taku ŭpadzie—toje lepš urodzić. U pav. Brasłaŭskim na kućciu niasuć u kaścioł śviacić avios. (Stary zvyčaj schrystyjanizavany paźniej). Haspadar na kućciu idzie ŭ sad i abviazvaje fruktovyja drevy viaźmom, kab dobra radzili; pa viačery pčalar idzie da vulloŭ i słuchaje, ci „pčołki hudziać", abo słuchaje, „ab čym skacina havora". Kali na kućciu padaje śnieh, to pčalar peŭny, što ŭ nastupajučym hodzie budzie šmat rajoŭ.

Kali drevy pakryty šerańniu, to mnoha budzie ćvietu na fruktovych drevach. I cały čarod inšych pavieryjaŭ isnuje ŭ biełaruskaha sielanina, jakija havorać ab silnym elemencie ahrarnym u kaladnich zvyčajach.

Element luboŭny, abo ŭ minuŭščynie žanićba, chapańnie žonak z čužoha rodu, prajaŭlajecca ŭ kaladnich varožbach i hulniach moładzi: na Kućciu, paśla viačery, dziaŭčaty vybiahajuć na vulicu i abymajuć płot, paśla ličuć tyn: kali da pary, to vyjdzie zamuž u nastupajučym hodzie, kali-ž nie, to astaniecca da nastupnaha hodu. Taksama biaruć dziaŭčaty z składu drovy naŭhad i pryniosšy ŭ chatu ličuć. U niekatorych miascovaściach dziaŭčaty jduć u chleŭ i ŭ paciomku biaruć sa stady jahnia: kali pryniasie barančyka, to pamysna, kali aviečačku, to nie. Padchodziać pad vokny susiedziaŭ i pytajuć: „iści?" Kali vypadzie adkaz: „siadzi", to aznačaje, što zamuž nia vyjdzie.

Bolš žorstkaj formaj varažby źjaŭlajecca voś takaja: dziaŭčyna a poŭnačy bosaja niasie na kryžavyja darohi ŭ košyku śmiaćcio i rassypaŭšy na ŭsie čatyry starony śvietu słuchaje, u jakim baku zabreša sabaka,—u toj bok i zamuž vyjdzie.

Chłapcy ŭnočy abciahvajuć baranu kruhom vioski, kab nivodnaja dziaŭčyna ŭ čužuju viosku zamuž nia vyšła. Najvyraźniejšaj formaj žanimskaha abradu źjaŭlajecca kaladniaja hulnia, viadomaja ŭ Uschodniaj Biełarusi i ŭ pav. Brasłaŭskim, Dzisienskim, Pastaŭskim i Śviancianskim, heta „Ciareška": na druhi dzień Kaladaŭ moładź schodzicca ŭ adnu chatu, tam vybirajuć „baćku" i „matku" z starejšych, jakija paśla moładź łučać u pary. Adbyvajecca ahulnaje ŭhaščeńnie z harełkaj, paśla čaho nia vyklučany mamenty i sapraŭdnaha žanimstva...

Usio vyšej uspomnienaje vyrazna nam admaloŭvaje prastaryja biełaruskija narodnyja tradycyi. Tolki-ž hetyja staryja tradycyi i źmiest ukryty nadajuć uračysty nastroj kaladam u narodaŭ mienš cyvilizavanych.

Chryścijanskija kaladnyja abrady, možna skazać, pačynajucca i kančajucca tolki ŭ carkvie, kaściele i charaktar ich susim inšy.

**M. P.**

# Студзень.

У рымлянаў —Januarius, франц. — Janvier, анг. — January, нямец. — Januar.

У рэспубліканскім календары — nivose — месяц сьнегу. У славянаў — сечэнь (стараж. — просінец); чэск.— ледэн, рас. — январь, польскі — styczeń, украін. — січэнь.

Беларускі назоў — студзень — як месяца халадоў і сьцюжаў, паходзіць ад слова сьцюдзёны — халодны.

Месяц студзень быў уведзены ў календар рымскім царом Нумаю Помпіліем у VII в. да Н. Хр. Назоў Januarius— атрымаў ад рымскага бога Януса, катораму быў пасьвечаны першы дзень гэтага месяца (сьвяты януаліяў). Да 153 г. да Н. Хр. студзень быў 12-м месяцам году і йшоў за лютым. У 153 годзе пачатак году быў перанесены на 1 студня і студзень з лютым былі пераменены мяйсцамі, на якіх яны знаходзяцца і цяпер.

Хрысьціянскія народы, прыняўшыя папраўлены Юліем Цэзарам рымскі календар, пачатак году так-жа лічаць ад 1 студня. Аднак-жа гэты звычай датуецца толькі ад 1563 г. Да гэтага-ж часу і хрысьціянскія народы пачыналі Новы Год з іншых дзён. Так, напрыклад, у сярэднія вякі, аж да паловы XVI веку, Новы Год пачынаўся з 25 сьнежня (у граматах нямецкіх імпэратараў). У Францыі да 1566 году Новы Год пачыналі ад першага дня Вялікадня; у Англіі да 1752 г. з 26 сакавіка. Некаторыя хрысьціяне і цяпер яшчэ пачынаюць Новы Год ад іншых дзён — эгіпскія копты — ад 1 жніўня, сырыйскія хрысьціяне ад 1 верасьня, нэсторыянцы і якобіты—ад 1 кастрычніка.

У старажытнасьці амаль усе культурныя народы лічылі Новы Год ад вясеньняга роўнадзеньня (больш-менш каля 21—22 сакавіка па нашаму календару). Гэтак лічылі эгіпцыяны, хальдэйцы і пэрсы.

Жыды, як старажытныя, так і цяперашнія Новы Год пачынаюць ад 1 дня месяца тышры. А 1 тышры яны лічаць у той дзень, калі настае новы месяц (маладзік) перад васеньнім роўнадзеньнем (нешта каля 21 верасьня). Паводле вучэньня жыдоўскіх рабінаў, у дзень 1 тышры Бог стварыў першага чалавека Адама і ў гэты-ж дзень цяпер Бог судзіць людзей за іхнія паступкі ў мінулым годзе.

Кітайцы пачынаюць Новы Год ад поўні месяца, бліжэйшае перад тым часам, калі сонца стане ў знаку Водніка (нешта каля 1 лютага па нашаму календару).

Усяленскі Царкоўны Сабор у 325 годзе пастанавіў пачынаць Новы Год ад 1 верасьня, а гэта на ўспамін таго, што ў 312 годзе 1 верасьня бізантыйскі імпэратар Канстанты Вялікі даў хрысьціянам права вызнаваць сваю веру і пра-

паведываць яе сярод паганскіх народаў. Пачаткам Новага Году 1 верасьня найдаўжэй лічылася ў Расеі, бо аж да 1 студня 1700 году. Праваслаўная Царква і цяпер лічыць 1 верасьня пачаткам царкоўнага Новага Году. Каталіцкі-ж Касьцёл распачынае касьцельны Новы Год ад 1 нядзелі Адвэнту (каля 1-га сьнежня).

Сьвяткаваньне Новага Году — можна сказаць, самае інтэрнацыянальнае сьвята; ня было і няма такога народу, каб не сьвяткаваў свайго Новага Году. Спатыканьне Новага і провады Старога Году выяўлялася і выяўляецца ў розных сымбалічных абрадах і звычаях. З апошніх цікава, што яшчэ старажытныя пэрсы ў дзень Новага Году дарылі адзін другому яйкі — сымболь адраджаўшагася жыцьця.

Рымляны ў дзень Новага Году прынасілі ахвяры богу Янусу. У іх-жа былі ў модзе навагоднія падаркі і навагоднія віншаваньні. У часы цэзараў прыяцелі абменіваліся дробнаю манэтаю, пазалочанымі дактылямі і фігамі (фіга— гэта садовіна, падобная да нашай сьліўкі), а так-жа плястрамі мёду — каб год быў салодкі. Пазьней рымскія імпэратары вымагалі таго для сябе ад усіх жыхароў Рыму.

Навагоднія віншаваньні перайшлі з Рыму і да хрысьціянскіх народаў, у каторых з цягам часу прынялі самыя рознаякія формы.

Беларусы, асабліва сяляне, стараюцца спаткаць Новы Год як-можна аквітым сталом, каб год быў багаты. Дзеля гэтага конадзень яго і называецца „багатаю Куцьёю“. Шчодраю куцьцёю“ „тоўстаю куцьцёю.“ У ноч перад Новым Годам амаль усюды дзяўчаты гадаюць, ці выйдзе замуж і за каго, за малайца (дзяцюка), ці за ўдаўца.

У месяцы студні дзень стала прыбывае і ў працягу месяца прыбудзе на 1 г. 30 мін. Студзень—сярэдні месяц зімы і на беларускіх землях найхаладнейшы, асабліва ў 1-й яго палове, калі здараюцца найдаўжэйшыя, маразы і сьцюжы.

На заканчэньне трэба ўспомніць аб некаторых іншых прыкметах і асаблівасьцях, каторыя выяўляюцца ў народнай сьведамасьці ў сувязі з тым ці іншым днём месяца студня, творачы народны календар.

Студзень — пачатак году — зіме сярэдзіна. Студзень мяце, а ліпень залье. Студзень хаты студзіць — рана гаспадыняў будзіць.

1.I. На Новы Рок прыбудзе дня на зайчын скок.

5.I. Посная Куцьця і запіс Каляд.

6.I. Вадохрышча. Запасацца сьвятою вадою, памоцнаю ад розных няшчасьцяў.

На Вадохрышча дзень цёплы — будзе хлеб цёмны.

18.I. Сьв. Апанас — апякун жывёлы ад маразоў.

24.I. Аксіньня дарогу перамяце, а корм падмяце.

**У. Паў—скі.**

# Літэратурны аддзел.

## З ЦЫКЛЮ—ЗЬВІНЯЧАЯ БЕЛЬ.

I.

Усьпеніў цёмны ельнік.
Скрылом мароз
І месяц — срыбны венік
Іскрыць бяроз.

Маўчыць і лес, і поле,—
Спакой начы.
Дрыжаць і ронюць зоры,
На сьнег — агні.

Далёка да начлегу,
Скрыпяць шагі...
О, радасьць зор і сьнегу,
Мне люба ты.

Сьцюдзёна і крыштальна
Твая краса.
Пад ёй сьпіць скрыта тайна
Закон Быцьця.

II.

Іду... мой шлях ня новы
Праз звонкі пух зімы.
Таруюць сьмела ногі
Шырэй чыесь сьляды.

На ўзбоччу бачу стрэхі
Грыбамі на сьнягу.
Начлег, — твае пацехі
Сквапліва берагу.

Тваё цяпло знаёма,
Ты блізак мне, як брат.
Палок, сяньнік саломы
І водар шэрых хат.

Капустай кіслай маніць
Вячэра, чуткі нос.
А за вакном махаець
Сівым скрылом мароз.

III.

Іду далей, а з-заду
Бяз ветру звоніць сьнег.
Зіяюць зор грамады
Над бельлю родных стрэх.

Аб неба, бачу месяц
Іскрыць свой белы рог,
Сагнуўшысь проста меціць
Ў пяты сьмелых ног.

О бель!... ты сьлепіш вочы
А шлях яшчэ даўгі.
У хвалдах белых ночы
Ня сьнег —
а пух зьвінячы і мягкі.

Іду, мой шлях ня новы,
Вядуць чыесь сьляды
І звонюць ціха зоры
Сьцюдзёны гымн зямлі.

**М. Машара.**

---

## ЗІМОВАЯ НОЧ.

Сонца косы патушыла,
І сканаў кароткі дзень...
Па-за сьветам ноч устала,
На зямлю пусьціла цень.
Сьнег ляжыць абрусам дзіўным:
Бель яго ня разіць воч.
Як шырокі ён, далёкі?
Сьнег ляжыць, над сьнегам ноч.
Цёмнай сіньню схаладнеўшай
Неба ўкрыла свой прастор

І акутала далёкі
Таямнічы кругазор.
А на небе ў карагодах
Зоры сьвечкамі гарацаь
І, гаворачы з сабою,
Сьмехам—іскрамі іскраць.
І лятуць к нам іскры тыя,
І ляціць той зорчын сьмех
І хаваецца ў пушысты,
У скрыпучы шэры сьнег.

Ў карагодзе зор вясёлых
Месяц стаў, як той пастух,
І глядзіць на іх, сьмяецца,
Расплываецца у круг.
Сьмех ягоны срэбрам льецца
На пустынную зямлю
І кладзецца няўхопнай
Плыняй-злудай на сьнягу.
А па ім украдкам дрэвы,
Абгалеўшыя кусты
Цені—здані раськідаюць
І дзівачныя знакі.
Ціха ўсюды. Гурбы сьнегу,
Па ўздарог і па ўсплатоў
Крадучыся, акружаюць
Вёску шэрых бядакоў.
Вёска сьпіць. Ня чутна гукаў...
О, ня то, што ў сенакос...
Ўсё замерла, апусьцела—
Волю мае дзед-Мароз.
Дзед-Мароз навокал вёскі
Скача скокам па платох
Страшыць здані і пужае
Трэскам-стрэламі ў калох...
Сьнег ляжыць абрусам дзіўным:
Бель яго ня разіць воч.
Як шырокі ён, далёкі?
Сьнег ляжыць, пад сьнегам ноч.

**Ўлад—Ініцкі.**

* * *

Atrymali my sumnuju viestku, što naš stały supracoŭnik, biełaruski piśmieńnik J. Bylina ciažka zachvareŭ na chvarobu lohkich i ciapier znachodzicca ŭ Zakapanym. Źmiaščajem tut jaho apošni vierš, u katorym prajaŭlajecca žudasnyja nastroi paeta, vyklikanyja ciažkaj chvarobaj. Žadajem Jamu čym-chutčejšaha vyzdaraŭleńnia, pierasyłajem Jamu haračy pryviet ad siabie i svaich supracoŭnikaŭ.

Redakcyja.

Žyvu tut ja adzin-adnyma,
Choć baču šmat kaho vačyma,
Dyk heta ludzi ŭsio čužyja,
Ich zvyčai zusim druhija:
I psychikaj jany admienny,
Ŭ svaich pastupkach nia sumlenny,
Admienna mova i uchvatki,
Maniery zvonku tolki hładki,
Čutna na vusnach asałoda —
Spračacca z imi — słoŭ na't škoda:
Ničoha ich nie prakanaje —
Ŭsio šovinizm im zakryvaje —
Na hałavie choć koł čašy.
Nie adkryvajcie im dušy,
Bo ich duša nie słavianina,
Nia lipka, miakkaja jak hlina.
A tak zakrytaja, zaŭziata,
Što ŭ łyžcy utapiła-b brata.
Jana tak chitra słovy viaža:
Što dumaje, taho nia skaža.
Dyk voś žyvu ja tut adzin-adnyma,
Ŭściaž chvory ciełam i dušoj,
Chto-ž stanie sumavać sa mnoj?
Bo heta prosta nie mahčyma
Na sum tavaryša znajści.

Mnie treba adnamu išci
Za tyja viečnyja varoty,
Adkul niama ŭžo pavarotu...
Hej, dosyć słoŭ ŭžo, dosyć movy...
Byvajcie, bratcy, vy zdarovy...
Zakapanaje 12.I.34. **J. Bylina.**

## VOŁ I PARSIUK.
(*Bajka*)

Pakorny voł
z haspadarom na poli
napracavaŭšysia davoli
prykłyhaŭ ledź damoŭ.

Jaho tut sustračaje
z advisłym brucham, jak kapšuk,
słaščavaj minaju paršuk
i da vała tak pramaŭlaje:

— „Tak ciažka kožyn dzień pracuješ
na siena žmut, albo sałomy...
za pracu nie daduć karony —
darma ty tolki moc svaju marnuješ...

Voś ja! Biaz pracy dohlad maju:
Što schoču tolki — mnie dajuć...
ŭ biarłoh sałomu padściłajuć,
mianie pahładžvajuć, nia b'juć,

a ježy — navat nia pytaju,
ciapier avios, haroch dajuć,
vadoju tolki zapivaju,
i češuć, važać, vymiarajuć...
pavieryš, — z dnia na dzień
ja prybyvaju,
i hrech było-by što kazać,
ci doli lepšaje šukać...
na byt ja svoj nie narakaju.
Ciabie, ja čuŭ, časami b'juć
i... da raboty zaprahajuć?“ —
Na toje voł:“—
„Za pracu maju honar svoj!

Tvaja-ž palityka ślapaja. —
O, jak-ža nizki ducham toj,
chto pracaju druhim nie pamahaje,
sycieje z dnia na dzień i prybyvaje.
nia znajučy, što zaŭtra...
pojdzie pad zaboj!“
*Jazep Vilkoŭščyk.*




## *NA NOVY 1934 HOD.*

*Šlacham zorak iz-za śvietu,*
*Idzie Ŭładyka novych dzion;*
*Nadzieju, ščaścia a mo‘ j śloży,*
*Niasie z saboj ziamielcy jon.*
*Usie chto žyŭ, śpiašyć, jmkniecca,*
*Addać Ŭładycy svoj pakłon,*
*Žadaci ščaścia i paśpiechu*
*Na nivie pracy, usich staron.*
*Uvaha! Moładź Biełarusi!*
*Ty ščaścia pažadaj sabie!*
*I z Novym Hodam, siłaj novaj,*
*Stań družna, śmieła ŭ barаćbie:*
*Za lepšu dolu Biełarusa,*
*Za kryŭdu rodnaje ziamli,*
*Za tych, što ŭ ciemry i prymusie,*
*Žyvuć, ci viek svoj pražyli.*

— — — — — — — —

*Choć kraj naš ciomny, nie bahaty*
*I prosty tut žyvie narod,*
*A hora bje iz kožnaj chaty,*
*My śmieła ŭsio-ž idziom ŭpiarod!*
*Choć śviet śmiajecca z nas pryhožy*
*I valić za saboj u śled;*
*My tam idziom, hdzie ljucca ślozy,*
*My tam idziom, hdzie vianie ćviet!*
*Niasiom my tam śviatło navuki,*
*Hdzie viečny sutanki i cień...*
*Niachaj ludziam akrepnuć ruki*
*I žyćcia jasny pryjdzie dzień.*

S. TREPKA.

# Вацюковы суботнікі.

(Працяг, гл. № 13/33 г.(60) „Ш. М.“).

Сабраўшаяся ў Вацюковым пакойчыку моладзь дарма чакала свайго сябру Кастуся. Не хацелі без яго пачынаць чытаць цікавую кніжку, якую Вацюк пазычыў ад вучыцеля суседняй вёскі, а яго як няма так няма!... Што за дзіва?

— Заснуў ці што? — дагадываўся Яська.

— Э, гэта да яго непадобнае, залішне ён цікавы да кніжак — запярэчыла Анелька.

— Ды няўжо ж мы дзеля аднаго Кастуся будзем траціць столькі дарагога часу — нездаволена прабурчэў Паўлюк. Вацюк пасьпяшыў залагодзіць: — яшчэ хвілінку пачакаймо, зараз можа прыйдзе!

Як-бы ў адказ на яго словы пачуўся тупат нецярплівых ног, раптоўна адчыніліся дзьверы і ў пакой ўскочыў чырвоны, спацеўшы, зморany Кастусь.

— А ты дзе гэтак зьлётаўся — зьдзівіліся прысутныя.

— Ох, дайце адпачыць, дух злавіць—прасіў Кастусь.

— Ну лаві, лаві, засьмяяўся Яська, а як зловіш, то скажы, які цябе страх ганяў! — Столькі часу мы цябе чакалі...

— Ніякія страхі мяне не ганялі, а толькі я гэтак да вас сьпяшаўся. А быў далёка — пачаў расказываць Кастусь крыху адпачыўшы.

— Толькі я сабраўся йсьці да цябе, Вацюк, а сабраўся рана, кліча мяне маці і кажа: „Слухай, сынок, пайдзі ў нашу коопэратыву і купі солі; Ганулял забылася прынясьці і нават вячэры пасаліць няма чым.“ — Крыху маркотна мне стала, што на суботнік спазьнюся, але што-ж рабіць, як трэба дык трэба. Хутка пабягу, думаю сабе, што і няшмат часу страчу, і—пабег.

— Прыбег у коопэратыву, аж там завалянае ўсё памяшчэньне мяшкамі, якія толькі што прывязьлі са станцыі чыгункі. Сабралася ўся ўправа коопэратывы; усе занятыя, зацікаўленыя сьвежым таварам. Надыйшоў і я бліжэй. Якраз дзядзька Пранук пачаў разьвязываць мяшкі; гляджу: у адным мяшку соль, ды такая белая, чыстая, як сьнег; у другім — іноў соль, толькі шэраватая; у трэцім і чацьвертым мяшку я пабачыў нейкія шэра-зелянаватыя каменьня. Я пацягнуў дзядзьку Пранука за рукаў: „Дзядзька, што гэта?“

...А і ты тут, кажа дзядзька, гэта соль, толькі не для людзей, а для жывёлы.“

— Я падумаў, што і вам цікава было-б пабачыць гэтыя ўсялякія гатункі солі ды папрасіў дзядзьку і ён мне даў па крышачцы кожнага гатунку. —

Пры гэтых славах Кастусь дастаў з кішані і разлажыў на стале сваю здабычу.

— Вось, малайчына Кастусь, усьцешыўся Вацюк, як я са сваей клясай і з вучыцелям быў у Вільні на выстаўцы, там мы бачылі асобны аддзел з соляй і вучыцель нам шмат, шмат цікавага пра яе расказываў.

— Пэўне-ж што гэта вельмі цікава — сказала Анелька, мы кожны дзень соль бачым і ямо, а нічога аб ёй ня ведаем.

— Раскажы нам, Вацюк, скуль соль бярэцца —папрасіў Яська.

— Добра, калі ўсе гэтым цікавяцца.

— Усе, усе! расказывай! пасьпяшылі запэўніць прысутныя.—Соль у вялікай колькасьці знаходзіцца распушчаная ў марской вадзе і ў цьвёрдым стане ў некаторых пластох зямлі.

— Скуль-жа ў зямлі соль магла ўзяцца? — пацікавіўся Паўлюк.

— Таксама з марской вады. Ёсьць такая навука аб тварэньні зямлі, называецца геолёгія, вось гэтая навука кажа, што пры розных пераваротах у тварэньні зямлі некаторыя моры высыхалі і на іх мейсцы аставаліся аграмадныя масы солі. Соль гэтая з часам пакрывалася новымі пластамі зямлі і такім чынам апынуліся ў яе глыбіні.

— Як-жа-ж яе з пад зямлі дастаюць?

— Там, дзе людзі знаходзілі соль ў вялікім ліку, закладалі г. зв. „капальні," з якіх яе і выдабываюць.

— Ці шмат ёсьць капальняў солі? — запытаўся Кастусь.

О! шмат, ёсьць і ў Гішпаніі, і ў Прусіі, і ў Расеі і ў Аўстрыі...

— Але найбліжэйшай для нас ёсьць капальні ў Вялічцы пад Кракавам. Капальні гэтыя па сваёй вялічыні і старадаўнасьці залічываліся да найбольшых асаблівасьцяў сьвету і дагэтуль сьцягіваюць ў Вялічку тысячы цікавых падарожнікаў. — Паводле польскай легенды гэтыя капальні адкрыла сьв. Кунэгунда жонка караля Балеслава Стыдлівага, але вучоныя думаюць, што капальні гэтыя былі ўжо знаныя шмат вякоў раней, а толькі сьв. Кунэгунда прывязла з сабой з Вугрыі людзей знаёмых з працай ў капальнях і тады распачалося сыстэматычнае выдабываньне солі.

(д. б.) **Л. Войцікава.**

# Лісты

## ТРЭБА ЗАЛАЖЫЦЬ СВАЮ КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ.

**М—ка Астрына,** Шчучынскага пав. У нашым мястэчку гадоў таму пяць, дзякуючы стараньням сьведамых беларусоў, у існуючай дзяржаўнай пачаткавай школе вучылі беларускае мовы. Усім было дужа добра, што дзеткі іх умелі прачытаць родную кніжку і часопісь. Аднак нядоўга трывала гэтая радасьць, бо вось па нейкім часе наступіла зьмена вучыцялёў у школе і навучаньне беларускае мовы пакрысе выводзілася і нарэшце зусім занікла. Не памаглі ніякія заходы сьведамых беларусоў і цяпер моладзь пазбаўлена магчымасьці навукі роднае мовы. Каб хоць крыху запоўніць гэты вялікі недахоп у нашым жыцьці, прапаную залажыць Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і супольнымі сіламі пры ім пашыраць беларусаведу і культуру, якая ў нас стаіць не завысока.

Дык дружна, брацьця, грамадою за культурную працу бярэмся, з роднай кніжкай і газэтай ў руках хутчэй тады дойдзем да мэты.

Шчырык.

## TREBA PRACIERCI VOČY.

**Muravanaja Ašmianka**, Ašmianskaha pav. U nas u 1927 hodzie byŭ zasnavany „Strzelec,“ spačatku mieŭ jon 12 stralcoŭ, pad kaniec adnak 1931 hodu było ŭžo ŭsiaho 2 i jon musiŭ razvalicca. Ksiondz L. Kluka, jaki prabyŭ u nas 22 hady, mieŭ miortvaje „Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej.“ U prošłym hodzie naznačyli da nas novaha ksiondza Matulisa, dyk voś jon pačaŭ ažyŭlać hetaha trupa. Dumajem adnak, što i „za novym karalom pojdzie ŭsio da hary kamlom.“ U hetym-ža samym prošłym hodzie źmianilisia ŭ nas vučyciali. Dziakujučy hetaj źmienie pačaŭ paŭstavać novy „Strzelec“ da jakoha ściahvajuć usich. Razumniejšaja moładź ad jaho adnak uciakaje, urešcie radžu pracierci vočy i lepš uzmocnić svoj Biełaruski hurtok Bieł. Instytutu Hasp. i Kultury.

Dziadźka Baradaty.

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**5-тыя ўгодкі выдавецкае працы „Шляху Моладзі.“** 16-га лютага с. г. мінае роўна 5 гадоў ад заснаваньня ў Вільні Рэдакцыйнае Калегіі „Шляху Моладзі“ і яе выдавецкае працы. Дзеля належнага адзначэньня гэтага юбілею Рэдакцыйная Калегія пастанавіла выдаць за месяц люты с. г. пабольшаны нумар „Шляху Моладзі“ і наладзіць адпаведны вечар дня 25 лютага с. г. у залі Бел. Інстытуту Г. і К. (Вільня, Завальная 1—1) у праграму якога ўвойдуць: справаздаўчы рэфэрат з выдавецкае дзейнасьці Рэдакцыйнае Калегіі „Шляху Моладзі“ за 5 гадоў і канцэртны аддзел. Усіх супрацоўнікаў і прыхільнікаў, якія хацелі-б, каб іх творы, артыкулы, карэспандэнцыі былі зьмешчаны ў гэтым нумары, просім гэтыя працы загадзя нам прыслаць.

**З дзейнасьці Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** — На пачатку новага 1934 году Цэнтральны Урад Б.І.Г.К. выдаў камунікат да ўсіх гурткоў Інстытуту, прыпамінаючы ім аб абавязку прысланьня ў Цэнтралю справаздачы з дзейнасьці за 1933 г. і аб скліканьні агульна гадавога сходу.

— 1.І. 1934 г. Гурток Б.І.Г.іК. ў Шальцінах, Браслаўскага павету ладзіў публічную лекцыю аб каапэрацыі, якую прачытаў студ. мэд. Я. Малецкі. Пасьля лекцыі адбыліся: дыскусія, дэклямацыі вершаў, канцэрт і скокі. На лекцыі прысутных было 75 асоб.

— 8.І.1934 г. Гурток Б.І.Г.іК. у Харкох, Пастаўскага пав., ладзіў публічную лекцыю на тэму „Мэты і заданьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.“ Лекцыю чытаў студ. Я. Малецкі. Пасьля лекцыі былі: дыскусія, сьпеў і народныя гульні. Народу было каля 130 асоб.

— 7.І.1934 г. Гурток Б.І.Г.К. у Шутавічах, Ашмянскага пав. ладзіў спэктакль-вечарыну. Адыграны былі 2 сцэнічныя творы: „Атрута“ — Гарэцкага і „Пасланец“ — Родзевіча. Народу было многа.

— Надовячы ў в. Анісімавічы, Баранавіцкага павету, заснаваўся новы Гурток Б.І.Г.іК. Цяпер адбываюцца захады дзеля зацьверджаньня яго адміністрацыйнымі ўладамі.

— 27-га студзеня с. г. Віленскі Аддзел Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ладзіў у сваім памешканьні (Вільня Завальная 1—1) традыцыйныя беларускія „бліны з верашчакай,“ падчас якіх выступаў беларускі хор пад кіраўніцтвам грам. Ч. Стэповіча, які выканаў некалькі беларускіх народных песьняў. Пасьля спажыцьця бліноў з верашчакай адбыліся скокі.

**З дзейнасьці Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце.** 21.І. с г. Т-ва Прыяц. Беларусаве-

ды ў Вільні ладзіла ў VII-май залі галоўнага ўнівэрсытэцкага будынку лекцыю аб новым беларускім правапісе ў БССР. Чытаў лекцыю др. Я Станкевіч. Пасьля лекцыі адбылася гарачая дыскусія. Гэты-ж самы прэлегент др. Я. Станкевіч у тэй-жа залі, дзякуючы стараньням Т-ва Прыяц. Беларусаведы, прачытаў 28.I. с. г. другую лекцыю аб барацьбе з беларускасьцяй у БССР. Пасьля гэтае лекцыі такжа была дыскусія.

4 лютага с. г. вышэйназванае Т-ва ладзіць так-жа чарговую лекцыю, на тэму „Беларуская Этнографія ў БССР. за апошніх 15 гадоў,“ якую будзе чытаць грам. М. Пяцюкевіч. Пачатак а гадз. 17.

**Зьезд Т.Б.Ш.** Ходзяць чуткі, што ў хуткім часе мае адбыцца ў Вільні зьезд Таварыства Беларускае Школы, які быццам выявіць многа цікавасьцяў.

**Суд над б. вучнямі Беларускай Гімназіі ў Наваградку.** 16 і 17 студня 1934 г. у Наваградку адбыўся суд над быўшымі вучнямі Беларускай Наваградзкай Гімназіі: Гульлям, Аляксеевічам, Еўтухоўскай, Главінскай, Ханьком, Вінарам, Чэрнікам, Анішчыкам, Літвіном, Норыкам і Гаўрылікам. Суд прызнаў усіх абвінавачаных вінными на аснове паказаньняў Анішчыка і Чэрніка, якія прызналіся да віны, і засудзіў: Аляксеевіча, Ханьку і Літвіна на 2 гады і 6 месяц. з пазбаўленьнем правоў на 5 гадоў, рэшту абвінавачаных на 1 год вастрогу з пазбаўленьнем правоў на 2 гады, прычым Еўтухоўскай, Главінскай, Норыку, Анішчыку і Чэрніку кара ўстрымана на 3 гады. Перадсудовы арышт нікому не залічаны. Абарона падала апэляцыю.

**З выдавецкае нівы.** Выйшлі з друку і паступілі ў продажу наступныя новыя беларускія выданьні: 1) *Беларускі Праваслаўны Малітваслоў*“ з беларускім і царкоўна-славянскім тэкстам, выданьня Сьв. Сыноду. Каштуе 50 гр.

2) *„Ameryka i łaźni“* — камэдыя ў 3-х дзеях Кэтуракіса, выданьне „Беларускае Крыніцы.“ Цана 50 гр.

3) *„Літэратурная Старонка“* — месячнік літэратуры, мастацтва і крытыкі № 1 за м-ц студзень 1934 г. Рэдактар Янка Патаповіч. Зьмест № 1 слабы і з літэратурай мала мае супольнага. „Літ. Старонка“ — гэтаз родная сястрыца аб'яслаўленай „Бел. Газэты“, каторая балотам кідае на беларускія народніцкія незалежніцкія ідэалы і на кожны праяў незалежнага нацыянальнага беларускага руху, выхваляючы бязмеры ўсё, што ёсьць толькі савецкае. „Літэратурная Старонка“ пашла сьледам „Беларускае Газэты“ і першы яе

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Баградановіч**

нумар ужо перапоўнены гразёю. Паміж іншым бачым у ём напады на некаторых нашых супрацоўнікаў і самому „Шляху Моладзі“ прыпісваецца ўмеласьць аб'яднаць сваю дзейнасьць з ворагамі беларускага народу. На гэта мы адказваем: „Хто парасё украў, таму й ў вушах пішчыць.“ Мы і нашы супрацоўнікі не хаваемся за псэўданімы і за чужыя плечы, працуем самастойна на карысьць беларускага народу ўжо 5 гадоў згодна з народнаю ідэолёгіяй і за сваю дзейнасьць нясём адказнасьць. „Літ. старонка“ хоча на грунце беларускім муціць ваду і ў ёй рыбкі лавіць, прытым у гразь цягне нас. — Ня ўдасца гэта! Папераджаем, што на хлусьню адказваць ня будзем, а калі ходзіць аб ідэолёгічнае і рэчовае змаганьне заўсёды да яго гатовы стаць з аткрытым чалом

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ. З жыцьця Т-ва Беларускае Моладзі.** 19 лістапада 1933 г. у Рызе адбыўся агульны гадавы сход Т-ва Беларускае Моладзі, на якім пасьля справаздачы Ураду Т-ва з дзейнасьці за мінулы год і вынясеньня падзякі Ураду за актыўную дзейнасьць выбраны новы Урад Т-ва, у склад якога ўвайшлі: Казімер Мяжэцкі—старшыня, Язэп Клагіш — заступнік старшыні, Міхась Зуеўскі — сэкрэтар, М. Слосман—скарбнік, Б. Станкевіч — сябра Ураду. У Рэвізыйную Камісію выбраны: У. Гусарэвіч, А. Рытаў і Я. Дзігілёў. Новым Уладам Т-ва жадаем удачы ў працы.

## Usiačyna.

**Najvialikšaja čyhunkavaja katastrofa** zdaryłasia 23.XII 33 u Francyi niedaloka Paryža. Zhinuła pry hetym 217 asob i bolš 300 raniena.

**Strašnaja katastrofa ŭ kapalni vuhla** zdaryłasia niadaŭna ŭ Čechasłavaččynie, dzie ad vybuchu padziamielnych hazaŭ, ziamla zavaliła 144 rabotnikaŭ, z jakich vyratavana tolki 4 asoby.

**Padčas ziemlatrasieńnia** ŭ paŭdzionnaj Azii, jakoje adbyłosia na pačatku sioletniaha hodu, zhinuła bolš 2000 asob, raniena kala 10.000 asob. Mnoha budynkaŭ zusim zrujnavana.

**Novuju Konstytucyju Rečypaspalitaj Polskaj** uchvaliŭ Sojm hałasami B.B. 26.I.1934 h. Novaja Konstytucyja dla Biełarusaŭ ničoha dobraha nia prynosić.

## Паштовая скрынка.

М. Машары. Пісьмо атрымана, падзяка. Просьбу споўнілі. Выдавецтва, пра якое вы пытаецe, нічога паважнага сабой не прадстаўляе, рэшта будзе ў пісьме.

Я. Вількоўшчыку. Усё атрымалі, дзякуем, як бачыце карыстаем, „Шл. М.“ так-жа высылаем паводле жаданьня. За раду шчырая падзяка.

Н. Жальба. З прысланых пяцёх вершаў пару нішто, па магчымасьці будзем карыстаць. У супрацоўнікі прыймаем. Радзім вам больш чытаць беларускае прыгожае літэратуры. Цешымся, што часопісь наша вам падабаецца і высылаць яе вам будзем. Пішыце часьцей.

С. Трэпка. Адзін з вашых вершаў, як бачыце, друкуем, рэшта слабаватыя, аднак пішыце больш і часьцей, прытым чытайце як найбольш кніжак.

Алесь Мілюць. Верш атрыманы надрукуем у наступным нумары. Пішыце часьцей.

Ул. Казаровічу. За прысланае падзяка, верш надрукуем у наступным нумары і чакаем на далейшыя грошы.

Паўка Раманчук Дужа цешымся, што вы маеце ахвоту пісаць, але аб вершах пакульшто радзім забыць, аб рамансах так-жа, старайцеся чытаць чым больш добрых кніжак і апішыце пакульшто якіясь кароценькія здарэньні, а ў будучыні, можа зможаце і штонебудзь вялікае напісаць. За прысланыя грошы праз памылку высланы вам календары, а калі вы іх прадалі, то грошы просім прыслаць нам.

А. Жуку. З прысланых вершаў друкуем адзін, рэшта — за слабыя. „Паўказка“ добрая рэч, але што-ж, калі форма ня вытрыманая і мова ня зусім чыстая, —можа вы папрабавалі-б прозай. Што маеце новае—прысылайце.

К. Еляшкевіч. Верш прызначаны на 5-тыя ўгодкі „Шляху Моладзі“ надрукуем у юбілейным нумары, рэшта слабаватыя, найгорш з мовай, кніжкі, якія маем, высылаем, пастарайцеся заснаваць у сябе Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, статут і інструкцыі высылаем разам з кніжкамі. Пішыце часьцей.

Дон-Савілла. Вам адказ будзе пісьмом.

Дзядзьку Барадатаму. Карыстаем, дзякуем, „Шлях Моладзі“ высылаем. Пішыце часьцей.

Бярозцы. Прысланыя вершы будзем друкаваць у наступных нумарох, бо да гэтага нумару „Літэратурны Аддзел“ ужо перад атрыманьнем вашага пісьма быў набраны. За падпіску дзякуем, „Заранку“ будзем старацца дастаць і перашлём разам з прэм'яй.

А. Ш—ку. Атрымалі, дзякуем. Пашырайце ў сваей старонцы „Шлях Моладзі.“

Ігнату П—ну. Часткова ўжо карыстаем, часопісь будзем высылаць.

Я. Т—ранцею. Кніжак паданых у сьпісе прэміі замяніць на жаль ня можам. Прышліце 2 зл.

Ігнату Б—левічу. „Шлях Моладзі“ будзем высылаць, прэмію вышлем, як атрымаем падпіску. За пажаданьні шчырая падзяка.

Усім, каму належыцца, прэмія будзе выслана 1.II.1934 г.

## КУТОК РАЗРЫВАК.

### Круцігалоўка № 1.

Пераскаківаючы праз пэўны лік кратак (заўсёды аднолькавы) прачытаць імя і прозьвішча аднаго з нашых паэтаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| я | а | к | н |
| а | | | л |
| п | а | к | у |

### Рассыпанка № 1.

З паданых ніжэй складоў злажыць вынятак з аднаго з вершаў Янкі Купалы.

Склады: па, русь, над, ла, жа, чэс, мі, між, бе, ня ро, мой, го, па, баць, свой, над, мі, мі,. я, з, я, я, да, на, ды ла, коў, па, ны, ма, ма, ся, ні. лі, да, са, ны, зін, ка, кры мой, да, за, ні, сад, сям. (*Злажыў Н. Р*)

**Загадка № 1.** Прыехала пані ў белым жупане, усе паненкі паскідалі сукенкі а тры не.(?)

УВАГА: Пачынаючы ад гэтага нумару заўсёды будзем зьмяшчаць пару круцігаловак, загадак і інш. разрывак. Усіх аматараў на іх запрашаем да супрацоўніцтва і да прысыланьня адказаў. За добрыя адказы некалькіх з іх рэдакцыя будзе даваць прэміі ў форме кніжак.